*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 30(86) ◆ 29 ліпеня 1992 г. ◆ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)







## Оршы—925 гадоў

З асвяшчэння Замчышча — месца заснавання Оршы — пачаліся ўрачыстасці, прысвечаныя 925-годдзю горада. Праграма свята ўключала тэатральнае відовішча, канцэрты самадзейных і прафесійных артыстаў. Пад музыку духавых аркестраў у розных канцах горада танцавалі і сівыя ветэраны і юныя пары. На «Кірмашы рамёстваў» бойка гандлявалі самабытнымі вырабамі з лазы, гліны, ільну народныя майстры, выхаванцы прафесійных вучылішчаў горада.

У госці да аршанцаў прыехалі вядомыя пісьменнікі, артысты, кампазітары Рэспублікі Беларусь. Вялікім гала-канцэртам і фальклорным шэсцем закончыліся ўрачыстасці ў старажытным горадзе на Дняпры.

НА ЗДЫМКАХ: Замчышча — месца заснавання горада; фрагмент тэатралізаванага відовішча «Зямля пад белымі крыламі».

**Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА.**
**(Белінфарм).**

## Поступ тыдня

**27 ЛІПЕНЯ БЕЛАРУСКІ НАРОД УПЕРШЫНЮ АФІЦЫЙНА АДЗНАЧЫЎ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

***РЭСПУБЛІКУ БЕЛАРУСЬ З ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ ПРЭЗІДЭНТ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА Э. КЛЕПШ.*** **Ён правёў перамовы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевічам і кіраўніком рабочай групы СНД І. Каратчэнем.**

***БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕГРАФНАЕ АГЕНЦТВА (БелТА) ЗАГАДАМ МІНІСТРА ІНФАРМАЦЫІ БЕЛАРУСІ ПЕРАТВОРАНА Ў БЕЛАРУСКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ АГЕНЦТВА — БЕЛІНФАРМ. Агенцтва будзе працаваць на правах дзяржаўнага прадпрыемства.***

**У ВІЦЕБСКУ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ МІЖНАРОДНЫ МУЗЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ «СЛАВЯНСКІ БАЗАР», У ЯКІМ ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ СПЕВАКІ БЕЛАРУСІ, УКРАІНЫ, РАСІІ, А ТАКСАМА ПОЛЬШЧЫ. У конкурсе маладых эстрадных выканаўцаў другое месца занялі нашы артысты Іна Афанасьева і Андрэй Хлястоў, лаўрэатам фестывалю стала чатырнаццацігадовая спявачка з Віцебска Таццяна Воранава.**

*Канферэнцыі*

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «Мы аб'ядналіся, каб выжыць...»

***У друку прамільгнула кароткае паведамленне пра сустрэчу Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча з актывістамі патрыятычнага руху — Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Сёння мы расказваем аб гэтай падзеі.***

Папярэднюю гаворку са спадаром Шушкевічам актывісты БЗВ мелі ў лютым 1992 года. За гэты час адбылася значная падзея — было створана беларускае войска. Пакуль — фармальна.

На гэты раз вайскоўцы абмеркавалі са Старшынёй ВС Рэспублікі Беларусь шэраг надзённых пытанняў, вырашэнне якіх патрабуе пільнай увагі грамадскасці і дзяржаўных структур.

Палкоўнік В. Барадач падкрэсліў, што цяпер афіцэры і генералы пазбаўлены юрыдычнай і маральнай адказнасці за выкананне сваіх абавязкаў па абароне Айчыны. Маўляў, аднойчы мы ўжо прысягнулі. Дык тады ж была другая дзяржава. У Расіі кожнаму цару прысягалі... Атрымліваецца, што ў афіцэрскім асяроддзі пануе пакуль што маўклівае супраціўленне дзяржаўнаму суверэнітэту Беларусі. А што думае з гэтай нагоды Станіслаў Шушкевіч?

Канешне ж, клятву на вернасць народу Беларусі войска абавязана даць. І яно будзе прымаць прысягу. Іначай атрымліваецца, што яно — чужое войска. Толькі не трэба спяшацца. Многія яшчэ не звыкліся з тым, што Беларусь — суверэнная дзяржава. А ў вайсковым асяроддку патрэбен час для асэнсавання свайго месца, сваёй пазіцыі кожным афіцэрам паасобку. Трэба імкнуцца да гэткага развіцця падзей, каб прыняцце прысягі стала лагічным крокам. На жаль, калі агледзець палітычныя падзеі ў былым СССР, то не ўсюды так адбываецца, як у нас. Суверэннай Украіне, напрыклад, войска прысягала. Мы аб'ядналіся дзеля таго, каб выжыць. А ўкраінцы аб'ядналіся на нацыянальнай глебе.

С. Шушкевіч зазначыў, што БЗВ шмат робіць дзеля патрыятычнага выхавання. І гэта — перспектыўны накірунак.

Сярод прапаноў, выказаных актывістамі БЗВ, была і такая: дамагацца выкарыстання ў войску новай сімволікі. М. Бірукоў прапанаваў увесці кукарды з элементамі дзяржаўных сімвалаў Беларусі, а таксама знічкі на пагонах. Кіраўнік парламента пагадзіўся з прапановай:

— Лічу, што гэта будзе нейкім чынам і псіхалагічная падрыхтоўка. І калі такая прапанова прагучыць у Вярхоўным Савеце, то абавязкова яе падтрымаю.

Асобна абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з лёсам нашых землякоў-вайскоўцаў за межамі Беларусі. Актывісты БЗВ выказаліся за тое, каб паскорыць іх вяртанне з гарачых кропак былога СССР — Азербайджана, Прыднястроўя і іншых. Падпалкоўнік У. Савянок зазначыў, што важны ў гэтых клопатах і маральны бок справы.

Станіслаў Шушкевіч выказаўся за падтрымку патрыятычнага руху, адзначыўшы, што і ён хоча бачыць больш беларускасці ў войску, большыя праявы нацыянальнай свядомасці. Кіраўнік парламента запэўніў прадстаўнікоў арганізацыі, што ніякіх пярэчанняў працы сяброў БЗВ у войску не будзе.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Родная мова экзаменуе... вайскоўцаў

*Ужо даўно прайшла ў Менскім вышэйшым ваенным інжынерным вучылішчы пара дзяржаўных экзаменаў. Але ж здаюць у вайсковай ВНУ зараз іншыя іспыты. Іх экзаменуе родная мова.*

*Пакуль што заняткі на курсах беларускай мовы завяршыліся для невялікай групы. Для астатніх жа вучоба працягваецца. Выкладаюць на курсах роднае слова Рыма Макараўна Бурдыка і Людміла Вячаславаўна Карабельнікава.*

*У праграме курсаў — заняткі, прысвечаныя беларускай культуры, гісторыі нашай Радзімы.*

***А. КУТ.***

◆◆◆

У вайсковай часці, дзе служыць маёр М. Варанец, працуе суполка ТБМ імя Ф. Скарыны. Адна з яе задач — прапаганда беларускамоўнай перыёдыкі. І калі на першае паўгоддзе штотыднёвік «Наша слова» ў гэтай часці выпісвала ўсяго шэсць чалавек, то ўжо з ліпеня ў газеты ТБМ імя Ф. Скарыны сяброў, актыўных чытачоў стала ў тры разы болей.

**А. К.**

*Пошта рэдактара*

# «Напісаў праўду...»

Час ад часу ў рэдакцыю прыходзяць лісты, да якіх не ведаеш, як і ставіцца. Да прыкладу, вось гэты. З іроніяй ці ўсё-такі ўсур'ёз аўтар пачынае яго словамі: «Шаноўны спадар галоўны рэдактар!» Ну ды не гэта галоўнае. Аўтар ліста паведамляе, што «на пачатку ўтварэньня газеты» яму падалося, «што ў нашага гаротнага народа зьявіўся законны заступнік і з дапамогаю друкаванага слова яго мова выб'ецца ў людзі» (у двукоссі заключаны фразы, якія цытуюцца згодна напісанага ў лісце — Э. Я.). Але цяпер аўтар зразумеў: «гэтага ніколі не будзе, пакуль там сядзяць вось такія рэдактары», якія ігнаруюць ранейшы правапіс. Далей у лісце падрабязна распавядаецца «як-жа так атрымалася, што наша мова аказалася ў такім гаротным стане», і паведамляецца, што з-за нязгоды «на выгнаньне мяккага знака перад звонкімі галоснымі (?) нацыянальная інтэлігенцыя... паплацілася сваім жыцьцём». Засталіся на свабодзе адны «люмпены», а «ім усё адно, ёсьць мяккі знак ці няма, яны гэтага не разумелі». Аўтар, праўда, не тлумачыць, каго ён у дадзеным выпадку разумее пад люмпенамі — звычайна ж так называюць жабракоў, валацуг ды іншых, хто адцураўся нармальнай працы ды сацыяльнага жыцця. Далей, вядома, «бальшавіцкія асімілятары... пачалі ўзмоцнена ўзаконьваць так называемую трасянку — гэта значыць расейскія словы ў беларускім вымаўленьні, а таксама штампаваць нязграбныя калькі». І вось цяпер, аказваецца, гэтаму вандалізму патурае галоўны рэдактар «НС», якому дастаецца нават за тое, што «друкуе размову старых бабулек трасянкаю».

Следам ідзе тэкст, які асабліва выразна перадае настрой і лінгвістычныя погляды аўтара, падаём яго цалкам, за выключэннем аднаго месца, дзе замянілі слова на літару са шматкроп'ем.

*«Ды вось сьвежы прыклад,— працягвае выкрываць рэдактара аўтар ліста,— з травою, названаю вамі «дзьмухавец». Калі ў расейскай мове гэта «одуванчик», то па-вашаму будзе гучаць «дзьмухавец», «дзьмухавічок». Але-ж гэта не так! Словы дуць і дзьмуць у беларускай мове сінонімы, толькі дзьмуць — азначае ўзмоцненае дзеяньне (Дальбог, не ведаў! — Э. Я.). А трава «одуванчик» у беларускай мове мае дваякую назву: пакуль яна цвіце і на ёй вырастае пушысты шарык, які разлятаецца, калі на яго дунуць — гэта курасьлеп, ад якога ратуюцца куры; а калі на гэтай траве лісьце разрастаецца і яе можна касіць касою — гэта ўжо дзятлоўнік!*

*Вось так, паважаны спадар Ялугін ці Калугін! (Грэшны, але гумару са скажэннем прозвішча не зразумеў — Э. Я.). Навошта ж вы ўводзіце людзей у зман і калечыце мову? Каб людзі ад сваёй адвярнуліся. Але ж гэтая заслуга ўлічыцца і вам і вашым дзецям.*

*Ці ўзяць пераклад з расейскай мовы «большое спасибо» — вялікі дзякуй. Гэта-ж звычайны штамп. Але ж у такім выпадку ў нас заўжды кажуць: «вельмі дзякую», «шчыра дзякую», ці «шчырае дзякуй». Але-ж калі хто мне скажа «вось табе вялікі дзякуй»,— прабачце за нецэнзуршчыну, для мяне гэта гучыць: «Вось табе вялікі х..!»*

*Шаноўны спадар Ялугін! Я вам прадказваю лёс, які напаткаў вядомага Мікалая Іванавіча Дземяньцея, якога партыйная наменклатура вылучыла на высокі пост «прадсядацеля» Вярхоўнага Савета БССР. Дык вось таварыш Дземяньцей прапанаваў гаварыць у Вярхоўным Савеце на той мове, хто на якой захоча. І пачаў выклікаць к мікрафону выступаючых: «Шасты мікрафон! Втары мікрафон! Сядзьмы мікрафон!!» (А як мне чулася, дык «шастой», «утарой»... але гэта дробязі — Э. Я.) і панеслася, паехала... Але-ж на якой мове ён выгукваў, ніхто дасюль не разабраўся, пакуль не выперлі яго з высокага крэсла. (Тут ужо каб была дакладнасць, пакінуў «крэсла» Мікалай Іванавіч зусім не па прычыне ўжывання «трасянкі» — Э. Я.) Так будзе і з вамі, шаноўны спадар!.. Прабачце, што напісаў вам праўду. Ганарар прашу мне не прысылаць, а перадаць яго ў фонд вашай газеты.*

*Пра сябе магу напісаць наступнае: мне 41 год. Вайсковец у адстаўцы, капітан. Апошнія 5 год адслужыў на Новай Зямлі. Жыву цяпер халасцяком, бо з жонкаю развёўся. Сын вучыцца ў Ленінградскім універсітэце. Скора атрымаю кватэру...*

*Васпанаў Аркадзь Нічыпаравіч».*

Я ўжо за тое ўдзячны Аркадзю Нічыпаравічу, што назваў сваё прозвішча і адрас. Неяк лягчэй размаўляць. Цяпер наконт ганарару. Дзякую, канешне, за прапанову накіраваць яго ў рэдакцыйны фонд, але, карыстаючыся выпадкам, хачу растлумачыць, што газеты, як правіла, аплочваюць публікацыі літаратурна-інфармацыйныя, а не эмацыянальныя чытацкія водгукі.

Яшчэ тлумачэнне — пра статус галоўнага рэдактара газеты «Наша слова». Кандыдатуру на гэтую пасаду разглядае і зацвярджае пленум Цэнтральнай рады ТБМ, там жа рэгулярна абмяркоўваецца дзейнасць рэдакцыі, накірунак газеты, яго адпаведнасць Статуту ТБМ. Сваё важкае слова заўсёды можа сказаць рэвізійная камісія і, вядома, сакратарыят Таварыства. Нарэшце, у газеты ёсць рэдакцыйная калегія, куды ўваходзяць аўтарытэтныя і высокапрафесійныя людзі, да таго ж — члены Цэнтральнай рады. Так што асабліва «зарвацца» галоўнаму рэдактару не дадуць. Пра крытыку ў яго адрас паведамляецца ў газеце. Апошнім разам на пасяджэнні Рады гэта зрабіў Вінцук Вячорка, аб чым чытачы інфармаваліся. Аб правапісе. Нядаўна было чарговае пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі, дзе абмяркоўвалася і гэтае пытанне. Урэшце вырашылі, што пераводзіць зараз газету на нейкі іншы правапіс проста нават фізічна немагчыма, бо няма распрацаваных нормаў і да таго ж ясна акрэсленай згоды ў грамадстве. Чаму, напрыклад, трэба аддаць перавагу аматарам «тарашкевіцы» і ігнараваць прапановы тых, хто наогул лічыць вартым неадкладны пераход на лацінку?

Нарэшце, пра калькі і падробку іншамоўных слоў, у прыватнасці, расійскіх пад беларускія. Відаць, толькі жыццё ды яшчэ майстры мастацкага слова канчаткова вырашаць, як чым распарадзіцца. Да спецыялістаў таксама трэба прыслухацца. Відаць, спадар узняў бы на смех лінгвіста, каб той пачаў павучаць армейскага генерала стратэгіі толькі таму, што два ці тры гады служыў у войску і ўмее адрозніваць палявую кухню ад бронетранспарцёра, а кулямёт ад дубальтоўкі.

Дарэчы наконт «одуванчика», які так уразіў спадара. Тлумачальны слоўнік (акадэмічны) беларускай мовы, выдадзены ў 1978 г., адзначае як асноўную назву гэтай расліны — «адуванчык». Ілюстрацыяй літаратурнага ўжывання даюцца радкі Караткевіча: «Чатыры леты Прабеглі над бялявай галоўкай, Якая, быццам спелы адуванчык, Качаецца пад ветрам вольных песень».

Назва «дзьмухавец» прыводзіцца як форма размоўная. Якую, аднак, падмацоўваюць сваім аўтарытэтам нашы лепшыя нацыянальныя майстры мастацкай літаратуры: «На цёмнай ужо, сакавітай траве абочыны камячкамі кволага пуху стаіць дзьмухавец» (Янка Брыль). А вось слова, якое мой крытык лічыць самай «беларускай» назвай гэтай расліны — «дзятлоўнік», «дзятліна», Зоська Верас, напрыклад, у сваім «Батанічным слоўніку», выдадзеным у 1924 г. (Вільня), тлумачыць як «канюшына белая». «Курасьлеп» — «курачая слепата» — «казялец» — адпаведна «лютик едкій», на лаціне — «ранінкулус ацэр».

Разбяромся і са словам «дзякуй». Адкуль спадар узяў свае меркаванні — загадка. Бо мы ў газеце спачатку толькі прыводзілі выказванні розных аўтараў адносна ўжывання выразу, у тым ліку далі форму, якую лічыў дакладнай яшчэ Скарына. Што да мяне асабіста, то я зыходжу з першапачатковага значэння слова — «дзякло», «дзяка», «дзякі» — старажытная падаць князю хлебам. Адсюль вытвараецца адпаведны дзеяслоў: «дзякаваць» — даваць хлеб, самае каштоўнае, што некалі меў чалавек. З часам першапачатковае значэнне слова забылася, як гэта нярэдка бывае, і яго вымаўленне часткаю людзей сапраўды падпала, на жаль, пад уплыў расійскага «спасибо» — «спаси Бог».

Дарэчы, спадар крытык не заўважае, што заўзята бэсцячы за «расеізмы» ды «савецізмы» іншых, ён сам спраўна імі карыстаецца. Мала таго, гэта стала, відаць, часткаю ягонай сутнасці. Скажам, нармальны культурны беларус ніколі не надумаў бы карыстацца нецэнзуршчынай для якіх бы то ні было параўнанняў. У дадзеным жа выпадку бачыцца тут адрыжка нашай савецкай, гулагаўскай, зэкаўскай існасці, якую прывіваў народу семдзесят з лішкам гадоў бальшавізм. У тым ліку і злаславасць, імкненне зняважыць апанента ці іншадумца. Але ж такімі сродкамі нельга паспяхова змагацца за нешта добрае, у тым ліку і за дасканалы нацыянальны правапіс. Інакш з такімі змагарамі, дальбог, «развядуцца» не толькі «люмпены», а і ўсе нармальныя людзі, якіх нюансы правапісу не вельмі цікавяць, але якім не даспадобы бясконцыя кпіны ды варажнеча. Цывілізаваныя людзі ва ўсім свеце разумеюць, што добрае ствараецца толькі дабратою ды чалавечай згодаю.

Эрнэст ЯЛУГІН.

## Дзе і што?

Сябры клуба «Спадчына» на чале са старшынёй Анатолем Белым перадалі ў дар філалагічнаму факультэту Белдзяржуніверсітэта гіпсавы помнік Максіму Багдановічу. Крыху раней з гэтага помніка быў зроблены помнік з медзі, які ў хуткім часу будзе ўстаноўлены на Чырвонай плошчы Яраслаўля ля будынка былой мужчынскай гімназіі, дзе вучыўся паэт. Аўтар помніка — Сяргей Вакар.

* * *

У вёсцы Белавічы да 200-ых угодкаў з дня нараджэння славутага медыка, гісторыка і археолага Міхала Гамаліцкага была адкрыта памятная дошка. Пасля ўрачыстасці адбылася навукова-практычная канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел навукоўцы з Вільні, Менска, Санкт-Пецярбурга і Масквы, а таксама мясцовыя краязнаўцы і прадстаўнікі ўлады.

*Меркаванні*

# Каб не здарылася, як у Югаславіі

**Цяжка не заўважыць пагрозлівыя для суседзяў з былой «эсэсэсэрыі» тэндэнцыі ў палітыцы Расіі, якія набываюць сваё акрэсленне на ўзоры гэтак званага «приднестровского вопроса». Паглядзіце, як там сябе паводзіць новапрызначаны Расіяй жа камандуючы 14-ай арміяй генерал-маёр Лебедзь! Не толькі яго заявы перад тэлекамерай, але і дзеі па кіраванню войскам даўно ўступілі ў яўную супярэчнасць не толькі з міжнароднымі законамі ды пагадненнямі, але і з заявамі расійскага прэзідэнта (не кажучы ўжо пра афіцыйную пазіцыю Міністэрства замежных спраў РФ) па падзеях у Малдове. І пасля ўсяго гэтага ваяка-генерал застаецца на сваім «працоўным пасту», што яшчэ раз сведчыць альбо пра двайную гульню ў Расіі, альбо пра пераўтварэнне расійскага войска ў самастойную палітычную сілу ва ўмовах нарастання «ўра-патрыятычных» тэндэнцый у расійскім грамадстве. Да чаго гэта прывяло ў Сербіі, агульнавядома. Існуе прамая небяспека суверэнітэту Беларусі, пакуль і на яе тэрыторыі знаходзяцца войскі, падпарадкаваныя Расіі. У кожнай дывізіі можа з'явіцца свой генерал Лебедзь.**

**Вадзім АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Змены трэба рабіць асцярожна

Паколькі размова ў газеце аб правапісе працягваецца, выкажу думкі згодна анкеце, якая была ў вас надрукавана.

Па-першае, мяне задавальняе сучасны правапіс, паколькі я ўжо да яго прывык.

Але мне ўсё ж больш падабаецца такі правапіс, дзе дазваляецца пісаць так, як чуецца: чэскі, узбецкі, у вагні, бяз жартаў, бяз рукі, ня буду і г. д. Змякчэнне знакам папярэдняй літары: у гнязьдзе, у масьле, сьведка, дзьверы... Гэта робіць нашу мову больш мілагучнай і надае яскравае адрозненне ад суседніх славянскіх.

Не згодзен з прапановай некаторых сяброў пісаць, напрыклад: газэта, кляс(а) і да т. п. Першае робіць слова цвярдзей, уносіць у гаворку грубасць, а другое наадварот — надае гаворцы залішнюю мяккасць, так бы мовіць, «сьлюнявасьць» і набліжае да польскай. На жаль, я ніколі не чытаў граматыкі Тарашкевіча, каб на яе спасылацца. А дзе яе набыць?

Беларускай мовай валодаю добра, як і расійскай, знаёмы з польскай, чытаю, хоць і дрэнна, па-ўкраінску.

**В. ЗАБАЙЛОВІЧ,**
**выкладчык**
**з г. Дуброўна.**

*Пісьменнік і мова*

Іван ЯШКІН

# «Дыялектызмы» ў творах Францішка Скарыны

Мову Скарынавых перакладаў Біблii некаторыя даследчыкі называюць царкоўнаславянскай з рознай ступенню насычанасці народнаразмоўнымі элементамі. Вельмі багаты імі пераклады з чэшскай мовы. Але найбольш беларускімі паводле мовы з'яўляюцца арыгінальныя творы нашага славутага друкара — прадмовы і пасляслоўі да яго выданняў.

Францішак Скарына хацеў зрабіць перакладаемую ім Біблію як мага больш зразумелай простаму чытачу, а таму і выкарыстоўваў словы і выразы народных гаворак. Шмат якія з іх, як мяркуе А. М. Булыка, ён «увёў у літаратурны ўжытак упершыню».

У Трэцяй кнізе «Царстваў» чытаем: «Царь... далъ градъ тои за вено дщере своеи». Слова *вено* мы не знойдзем ні ў Астрожскай біблii (1581 год), ні ў расійскім перакладзе Біблii (1983 год), ні ў Нью-Йоркскім беларускім выданні Біблii (Нью-Ёрк, 1973). Там выкарыстана лексема *пры́данае:* «и дасть град въ приданое дщери», «и отдал его в приданое дочери», «і аддаў яго як пасагу дачцэ».

Як бачым, Скарына ўжыў *вено* ў значэнні паса́г. Картатэка гістарычнага слоўніка беларускай мовы, складзеная супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, сведчыць, што даўней словы *вено, пасаг* ужываліся часта. Цяпер назва *вена* пашырана на ўскраіне паўднёва-ўсходняга (брэсцка-гомельска-магілёўскага) моўнага абшару.

У Скарынавых перакладах *вено* ўжываецца і ў другім значэнні — 'плата, выкуп': «Естъли кто прельстить девицу еще незарученую и спит с нею, да даей вено и поиметь ее собе за жену» (кніга «Выхад»). Праславянскае, агульнаславянскае *вено* 'прыданае, пасаг', 'плата за жонку', беларускае *вена* 'пасаг', верагодна, з'яўляюцца роднаснымі лацінскаму *венус* 'продаж', 'любоў', 'прыгажосць'.

Адметнае дыялектнае слова бачым мы ў Чацвёртай кнізе «Царстваў»: «Сииже были суть и придверниками аоупервыхъ двереи ложницы Царевы стоiеаху». Слова *прыдзве́рнік* магло быць і наватворам славутага друкара, бо на яго Полаччыне гэтая назва цяпер не адзначана. А ў той, Скарынаўскі, час адпаведнікам згаданага слова выступала лексема *каморнічы*, якая, напрыклад, ёсць у чэшскай Біблii 1506 года. У Скарынавай жа Біблii слова *каморнік* ужыта ў двух значэннях: 'вартаўнік каля дзвярэй святліцы', а таксама 'спецыяліст межавання зямельных надзелаў'. Але ў Слаўгарадскім і суседніх Краснапольскім, Быхаўскім, а таксама ў Мсціслаўскім раёнах занатавана слова *прыдзве́рнік:* «Што я вам за прыдзве́рніка там стэйяць бо́до?!»

*Пражмо́* 'жытнія каласы васковай спеласці, якія падсмажваюць на агні' — яшчэ адно дыялектнае слова знаходзім мы ў кнізе «Ісуса Навіна»: «ядоша отъ плодовъ земли тое во день вторыи, и хлебы пресные, и пражъмо того жъ лета». Таксама і ў кнізе «Руф»: «и сяде Руфъ на сътране женьцевъ и вымянъши собе с класовъ пражъма яде и насытися». Слова *пражмо́* знаходзім і ў гаворках Сярэдняга Пасожжа. Напрыклад, у вёсцы Шаламы Слаўгарадскага раёна скажуць: «Пражмоў (прёжым, пре́жым, пряжо́м) нысмалім і ядзім, аж выда п'ецца», «Смаль пражмо і лузай жы́ціны́». А вось на Полаччыне слова *пражмо́ невядомае.* невядомае. Там пук ржаных каласоў, пражаных на агні, якія звычайна рыхтуюць сабе пастушкі ў полі, і называецца *каласаві́к.*

У Першай кнізе «Царстваў» Францішак Скарына выкарыстаў слова *па́шчакі:* «от пащекъ медьмедя». У сучаснай беларускай літаратурнай мове вядома слова *сківі́ца*, а *пашчэнка (пашчэ́нкі)* надаецца як абласное. Паводле польскага лінгвіста А. Брукнэра, гэтая лексема ўжывалася на беларускай тэрыторыі ў XVI і XVII стагоддзях у дзвюх формах: без насавога гука *(пашчэка)* і з ім *(пашчэнка).* І цяпер на захад ад лініі Бе́шанкавічы, Маладзечна, Узда, Клецак, Маларыта (паводле карты № 13, «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак») кажуць: *пашчэ́нка, пашчэ́мка, пашчэ́кі, пашчэ́нькі.* Слова ж *па́шчакі* са значэннем «сківі́цы, шчокі» вядома і на Прапойшчыне (Слаўгарадчыне): «Такей худэй аж па́шчыкі зьвяло», «Па́шчыкі ўпалі, пуўпыдалі саўсім, аж шчарнеў». Менавіта такую, усходнюю, без насавога гука, форму слова *пашчэкі* ўжыў і Скарына.

Можна адзначыць шмат лексем Скарынавых выданняў (і дзелавой пісьменнасці XV—XVII стагоддзяў), якія шырока бытуюць таксама і ў сучасных народных гаворках. Напрыклад: *верея — вірія́* 'шула каля варот' (першым падаецца Скарынава слова, а другім — слова з народных гаворак); *отметникъ* 'адступнік' — *адме́тны, атме́тнік* 'хто чым-небудзь адрозніваецца ад усіх'; *братаничъ — братані́ч* 'пляменнік' (палескае); *возатыи — вазя́ты(й)* 'возчык, huвознік, вазак'; *оратва — аратва, ратва* 'ворыва'; *любезник* 'прыхільнік' — *любезнік, любізнік* 'той, хто любіць'; *телча — цялчо* 'цялё' (абразліва); *ма́ры — ма́ры* 'насілкі для нябожчыка; *мокрина* 'забалочанае месца' — *макрына, мокріна* 'нізкае месца', *прозиратай* 'прарок' — *«Прызіра́тыі* тэя, усё бачуць, усё знаюць»; *женути* 'гнаць', *розженути* 'разагнаць', *выженути* 'выгнати' — *розжэнуць* (палескае); *няти* 'браць, узяць' — «ні *няў* панесьць», «*няў* дык *аняў* сена с тэя пыласы».

Зразумелыя сучасным жыхарам Прапойшчыны скарынаўскія выразы: *кутнии зубъ* (там кажуць *кутній зуб*), *от лихоты (ат ліхаты́* ёй ета, *да ліхаты* ўсяго ёсць), *обоскоминеють* зубы *(абооскоміюць, «абаскамінеюць* зубы 'т кіслых яблык»), *волочащиеся мужи (вылычашчыя мушчыны), оудатныхъ молодцевъ* («О, яны *ўда́тны!)», уродная поля (ўродныя, ро́дныя поля), хоронякою* 'сховішча' (*«Хыранёва* завецца таго, што там *хыранкі хыраніліся»).*

Знаходзім у Скарынавых творах і некаторыя слаўгарадскія адпаведнікі-германізмы (*спижи — «Спіжы́ спіжу́я* таго сена, цэлую *спіжа́рню ны́спіжуваў* сена») і паланізмы, як лічыць П. У. Уладзіміраў *(куропатвы — курупатва, дзітва́, лявітва* людзей).

Маюць свае паралелі ў творах славутага друкара таксама і фанетычныя асаблівасці гаворкі Слаўгарадскага раёна: 1) *е* на месцы *ь: жызень — жы́зень, жы́зінь;* 2) *е* на месцы *«ять»* і *«юса малога»: паметь, месець, десеть, редова́я — па́мець, месец, дзе́сець, редэва́я баба;* 3) *і* на месцы *ъ* і *ь: кривавыми, гримети, прозвинить — крива́вэй, гріме́ць* і *гіріме́ць, прозъ(і)віні́ць;* 4) мена *о* на *а: двожды, кождыи, кожный — «двожды два — чэтэ́ре», ко́ждый хоча, кожный дзень.*

Паўтарэнне складоў (тыпу Скарынавых паўтораў у словах *от погыгибели, горниници, вжижителех земных*) мы маем і ў слаўгарадскіх гаворках пры перадачы дакладнасці, колькасных ці якасных, дадатных ці адмоўных характарыстык, напрыклад: *ат пагігібілі яму мёду, у бу́льбініні расток, ў жыжы́зінь ня буду!, ні ў жыжы́сіць ні скажа!* Там жа, на Слаўгарадчыне, вымаўляюць цвёрда [л], як у Скарыны: *белмо, долникъ, ковалскии.*

Звяртае ўвагу мена *ц* на *ч*, паралельнае ўжыванне Скарынам адных і тых жа слоў то з *ц*, то з *ч: оцестити, оцистити, очистити, горнъцарева, очиститися, родиц.* У народных гаворках цоканне, як вядома, адзначаецца на Полаччыне, Пскоўшчыне, Смаленшчыне і спарадычна ў лексілізаваных словах на Меншчыне і Магілёўшчыне.

Словы з падвоенымі зычнымі ў Скарынавых творах *(Наввину, Леввин, еввангелистъ, еввангелие)*, напісанне поруч *у* і *в (еувангелие, леувиты)*, відаць, сведчыць аб губна-губным вымаўленні *в* самога друкара. Дарэчы, гэтая асаблівасць нашай мовы была шырока распаўсюджана, пра што сведчыць «Гістарычны слоўнік беларускай мовы» (выпуск 9, 1989. С. 138 — 143). Такое ж вымаўленне сустракаем і ў слаўгарадскіх гаворках: *Ляўво́н, няўвыўжо́, коні ў ювайсе́, ўвайсе́, ўві́ка, юўве́сь, ўвек, уўчо́ра, юўчо́ра.*

З іншых беларускіх «дыялектызмаў» у творах Францішка Скарыны сустракаюцца: фрыкатыўнае [г], пераход *ж* у *з*, прыстаўныя *і, в* (перад *о*), падваенне зычных ды іншыя.

Асобна трэба сказаць пра марфалагічныя дыялектызмы Скарынавых твораў. Найбольш цікавыя з іх — канчаткі: 1) *-у* назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне: *збітии боку, из зубу — пубіва́ння боку, ныціра́ння боку, із* зу́бу памёр; 2) *-у* назоўнікаў мужчынскага роду ў месным склоне адзіночнага ліку: *о хитромъ сыну, о плачу, в суду — аб сыну, (і аб сыні), аб плаканню (і плаканні), у суду (і судзе); на рогу, на боку, на торгу — ны рагу (і на розі), ны баку (і на боцы), ны таргу* (і *на торзі, ны тарзе)* — так гавораць на Слаўгарадчыне; 3) *-ём//-ом* назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду ў давальным склоне множнага ліку: *людемъ, языкомъ, роботягомъ — людзём, «тым языком ня веры!», «тэм рэбэцягом аддай!»;* 4) *-ех//-эх//-ох//-ёх* назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду множнага ліку ў месным склоне: *на волехъ, въ сынехъ — ны валэ́х е́дзя, ны вало́х, «у сынэ́х праўда ё, у сыно́х вера ё, у сыннёх — брёх»; у санёх, у саннёх;* 5) *-ое* назоўнікаў жаночага роду ў родным склоне: *надежи доброе, неплодное земли, з доброе воли — з добрыя надзёжы, з няплодныя зямлі, з добрыя волі.* Усяго такіх марфалагічных асаблівасцяў не меней дванаццаці.

Як бачым, параўнанне асаблівасцяў мовы Скарынавых кніг з моўным складам сучасных дыялектных матэрыялаў пераканаўча даказвае беларускасць, самабытнасць твораў нашага славутага друкара, веданне ім старабеларускай літаратурнай мовы — дзяржаўнай мовы Вялікага княства Літоўскага — і моўнага багацця народных гаворак. Шмат чаго з тых скарбаў, як можна праканацца, дайшло і да нашага часу.

Пры паглыбленым параўнальным вывучэнні беларускіх гаворак і лексікі, мовы выданняў Францішка Скарыны можна будзе сказаць, што беларускі першадрукар у эпоху Рэнесансу валодаў тагачасным дыялектным і кніжным моўным багаццем і ўдала яго выкарыстоўваў.

## Каротκі слоўнік эканомікі



АЎДЫТАР. Тое ж, што і рэвізор, які кантралюе фінансавую дзейнасць кампаніі (фірмы).

ВЭКСАЛЬ. Тэрмін паходзіць ад нямецкага «вэхзэль» — літаральна «мена». У эканоміцы — каштоўная папера, якая сведчыць пра абавязацельства крэдытора заплаціць у тэрмін указаную суму грошай уладальніку В. Адзін з важнейшых дакументаў пры афармленні крэдытна-разліковых адносін. У СССР быў адменены ў 1930 годзе крэдытнай рэформай, але зараз зноў пачынае дзейнічаць. Выконвае функцыі дакумента аплаты, можа быць выкарыстаны як інструмент для інкасіравання (атрымання банкам па даручэнні кліента ягоных грошай) даўгоў.

Вэксалі бываюць: **простымі** — калі гарантуецца ўплата некаму азначанай сумы грошай; **пераводнымі,** альбо тра́тта, па якіх звычайна плацельшчыкам выступае не крэдытор, а трэцяя асоба, якая прымае на сябе з дапамогаю акцэпта (пісьмовай згоды на аплату разліковых і таварных дакументаў) безумоўнае абавязацельства плацяжу.

*Дапытлівым*

## Афрыката

У нашай мове ёсць гук [дж], які, хоць і пазначаецца на пісьме дзвюма літарамі, усё ж вымаўляецца так, нібы гэта звыклы зычны, а не спалучэнне двух гукаў. Праўда, навукоўцы пэўным чынам пазначаюць яго адметнасць: паводле лінгвістычнай тэрміналогіі — гэта *афрыката* (лацінскае «афрыката» — прыцёртая).

Афрыкату [дж] можна напаткаць амаль ва ўсіх часцінах мовы: *адраджэнне, дождж, ураджай* (назоўнікі), *дагледжаны, згладжаны, пашкоджаны* (дзеепрыметнікі), *адраджаючы, адцэджваючы, абгароджваючы* (дзеепрыслоўі). Асабліва шматлікія прыклады з'яўлення яе ў розных марфалагічных формах дзеяслова: *ад'язджаць, сцэджваць, узнагароджваць* (інфінітыў), *сяджу, гляджу, ладжу, суджу* (1-ая асоба адзіночнага ліку), *абсаджваў бы, прысуджаў бы, прыгладжваў бы* (умоўны лад), *адраджай, папярэджвай, абгароджвайце* (загадны лад).

Такое шырокае бытаванне афрыкаты [дж] падказвае адну выснову: яна ўзнікла вельмі даўно, значна раней XV стагоддзя, у рукапісных дакументах якога сустракаюцца пераканаўчыя факты наяўнасці гэтага гука. Ён абазначаўся тады рознымі спалучэннямі літар ці асобнымі літарамі: *дж, жд, ждч, жч, ч, д.* А. М. Булыка ў кнізе «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старажытнай беларускай мовы» (Мн., 1970) падае такія прыклады: *прыеждати, уезджати, наежчати, дожчь, дрожчи, дожчу, дожды.*

Як бачым, больш за 500 гадоў таму беларускімі пісцамі было знойдзена абазначэнне гэтага гука — афрыкаты [дж] — спалучэннем літараў ці, як кажуць вучоныя, дыграфам *дж.* Гэтым фактам можна ганарыцца!

# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе*
*Лявон* **БАРШЧЭЎСКІ**

І ў эпоху Адраджэння лацінская мова захоўвала моцныя пазіцыі ва ўсёй Еўропе. На ёй надалей ствараліся мастацкія, у тым ліку і паэтычныя, творы. У Нідэрландах у гэты час тварылі выдатныя лацінскамоўныя паэты Дэзідэрый Эразм Ратэрдамскі (1469—1536), які больш вядомы нам як сатырык, крытык і вучоны-гуманітарый, і Еан Секунд (1511—1536), аўтар славутага зборніка любоўнай лірыкі «Пацалункі».

## *Эразм* РАТЭРДАМСКІ

### СКАРГА НА БОЛЬ

Хоць не відно сівізны ў мяне на патыліцы белай,
Лоб мой яшчэ не блішчыць, страціўшы ўсе валасы,
Зрок не падводзіць мяне, з гадамі не здраджваюць вочы,
З брыдкага рота майго чорны не падае зуб,
Рукі пакуль што мае не колюцца цвёрдым шчаціннем,
Скура яшчэ не вісіць, звяўшы, на целе сухім —
Хоць, адным словам, яшчэ я знакаў старэння не маю,
Лёс мне, здаецца, і Бог смутак заўсёдны нясуць:
Мне, маладому, яны старэчае наканавалі,
Каб я зрабіўся стары, не пастарэўшы яшчэ.
Белячы так сівізной маю галаву маладую,
Разам турботы ды боль свой апярэдзілі час.

## *Еан* СЕКУНД

### ВЕРШЫ СА ЗБОРНІКА «ПАЦАЛУНКІ»

* * *

Што ты вусны гарачыя даеш мне? —
Не хачу цалавацца я з Нээрай,
Цвёрдакаменнай, цвярдзейшай за мармур!
Ці ты хочаш, пыхліўка, каб любіў я
Пацалункі, не распачаўшы бойкі,
Каб няспынна сцяблом паднятым пругкім
Працінаў у нас абаіх тунікі?
Каб марнеў я, зняможаны ў чаканні,
Кроў мая хвалявалася дарэмна?
Ты ўцякаеш? — Застанься! Дай мне вочы,
Дай жа вусны гарачыя мне зноўку:
Цалавацца з табой хачу, пяшчотнай,
Мяккаю, быццам бы пух лебядзіны!

* * *

Гэтак, як ружа з паўночнай шчодрай расой на дасвецці
Фарбай пунсовай сваёй свет залівае наўкол,—
Так пунсавеюць і вусны ў панны маёй раніцою:
Вільгаць на іх — ад маіх губ, што шалелі ўначы.
Тварык яе атачае вусны бялюткім вяночкам —
Нібы фіялку ўзяла ў белую панна руку.
Так кучаравая вішня ярка гарыць, расквітнеўшы,
Ў час, калі там, між галін, лета спаткае вясну.
Ах, я гаротны! Навошта, як толькі палка зліёмся
Мы ў пацалунку, заўжды мушу я з ложка ісці?
О прыгажуня! Пунсовасць вуснаў тваіх застанецца,
Аж пакуль я не прыйду ноччу бязмесячнай зноў.
Ну, а калі пацалункі іншы сарве з тваіх вуснаў —
Хай тады зблякнуць яны горш ад маіх бледных шчок!

**Пераклад з лацінскай**
Лявона **БАРШЧЭЎСКАГА.**

*Дэтэктыў. Прыгоды*

*А. КРЫСЦІ*

# *Справа адной багацейкі*

**(Апавяданне)**

*(Заканчэнне.*
*Пачатак у №№ 28, 29).*

Можна наведацца ў кантору Пайна. Гэтая ідэя ёй больш спадабалася. Перш-наперш ёй карцела сказаць гэтаму нягодніку, што яна пра яго думае. Але здзяйсненню гэтага плана перашкаджала адна важная акалічнасць. Яна знаходзілася, як даведалася, у Карнуэле, і ў яе не было грошай на паездку ў Лондан. Засталіся толькі два шылінгі і чатыры пенсы.

І вось праз чатыры дні місіс Раймер прыняла рашэнне. Няхай пакуль усё будзе, як ёсць. Раз яна — Ганна Мурхаус, хай будзе Ганнай Мурхаус. Яна ўвойдзе ў гэтую ролю, але пазней, калі збярэ дастаткова грошай, паедзе ў Лондан і смела рынецца ў бойку.

Парашыўшы на гэтым, місіс Раймер пачала самаахвярна іграць сваю ролю. Цяперашняе жыццё нагадвала ёй дзяцінства. Як, здаецца, даўно гэта было!

Праца здавалася ёй трохі цяжкаватай пасля стольвіх гадоў лёгкага жыцця, але праз нейкі тыдзень яна звыклася са сваім становішчам.

Місіс Гарднер была лагодная, сардэчная жанчына. Муж яе — мажны негаваркі чалавек — таксама падабаўся місіс Раймер.

Мінаў тыдзень за тыднем. Нарэшце надышоў дзень, калі місіс Раймер сабрала дастаткова грошай на білет у Лондан. Але не паехала. Адклала. Куды спяшацца?— думала яна. Ёй не давала спакою думка пра псіхіятрычную бальніцу. Гэты нягоднік Паркер Пайн хітры. Ён прымусіць якога-небудзь доктара сказаць, што яна вар'ятка, і яе запхнуць у такое месца, пра якое ні адна жывая душа не пранюхае.

— Да таго ж,— гаварыла сабе місіс Раймер,— невялічкая перамена заўсёды на карысць чалавеку.

Уставала яна рана і шмат працавала. Узімку Джо Уэлш, новы работнік, захварэў, і ёй разам з місіс Гарднер даводзілася даглядаць яго. Гэты дужы мужчына быў бездапаможны, як дзіцё.

Настала вясна. Джо Уэлш паправіўся і памагаў Ганне ў рабоце. Яна рамантавала яму адзенне. Іншы раз у суботу яны разам выходзілі прагуляцца. Джо быў удавец. Жонка яго памерла чатыры гады назад. Пасля яе смерці, як сам прызнаўся, ён вельмі прыахвоціўся да бутэлькі. Цяпер жа ён не надта ўжо каб выпіваў. Купіў сабе тое-сёе з вопраткі. Гарднеры толькі пасмейваліся. Ганна нязлосна кеплівала з яго. Але Джо не злаваўся.

Пасля вясны настала лета — надзвычай тым годам добрае лета. Усе многа працавалі.

Жніво скончылася. Лісце на дрэвах пачырванела і зазалацілася.

Восьмага кастрычніка, падразаючы качаны капусты, Ганна раптам убачыла Паркера Пайна. Ён стаяў, перагнуўшыся цераз паркан.

— Гэта вы! — усклікнула Ганна.— Вы!

І яна сказала ўсё, што думала пра яго.

Паркер Пайн лагодна ўсміхнуўся.

— Я з вамі згодзен,— сказаў ён.

— Махляр і ашуканец, вось вы хто! Разам з вашым Канстанцінам, і гіпнозам, і гэтай небаракай Ганнай Мурхаус, якую вы заперлі разам з псіхамі.

— Не,— адказаў Паркер Пайн,— вось тут вы памыляецеся. Ганны Мурхаус няма ў вар'яцкім доме, таму што яе наогул ніколі не існавала.

— Праўда? А як жа наконт яе фатаграфіі, якую я бачыла на свае вочы?

— Фальшыўка. Такое сфабрыкаваць проста.

— А тая штука ў газеце?

— Уся газета падроблена. Як бачыце, усё ўдалося як найлепш.

— З дапамогай гэтага прайдзісвета — доктара Канстанціна!

— Прыдуманае прозвішча. Яго выдумаў адзін мой сябар.

— Хо! Можа мяне і не гіпнатызавалі?

— Праўду кажучы, не. Вам у каву быў падсыпаны парашок з гашышам. Потым вам увялі і іншыя прэпараты і прывезлі на машыне сюды.

— Значыць, місіс Гарднер была тут увесь час?

Містэр Паркер кіўнуў галавой.

— Пэўна, добра заплацілі!

— Місіс Гарднер мне давярае,— сказаў містэр Пайн.— Калісьці я ўратаваў яе адзінага сына ад катаргі.

Нешта ў яго голасе прымусіла місіс Раймер прыкусіць язык. Потым яна запытала:

— А як з радзімкай?

Містэр Пайн усміхнуўся:

— Яна ўжо блякне. Праз шэсць месяцаў зусім сыдзе.

— Што ўсе гэтыя вашы дурыкі значаць? Паздзекавацца з мяне захацелі? Запіхнуць сюды як прыслугу — мяне, у якой такія грошы ў банку! Але якая карысць задаваць вам такія пытанні? Вы, мой дабрадзею, самі ўхапіліся за мае грошы. Вось што гэта значыць.

— У тым, што вы сказалі, ёсць доля праўды, місіс Раймер, бо калі вы, прыняўшы наркотыкі, далі мне права паверанага, і ў час вашай э-э... адсутнасці, я ўзяў кантроль над вашымі фінансавымі справамі. Але запэўняю вас, мадам, што, акрамя тысячы долараў задатку, ніводная ваша манета не трапіла да мяне ў кішэню. Наадварот, ваша фінансавае становішча палепшылася.

— Тады чаму...— пачала была місіс Раймер.

— Хачу задаць вам адно пытанне, місіс Раймер,— перабіў яе містэр Пайн.— Вы сумленная жанчына. І дасцё шчыры адказ, я ведаю. Хачу запытацца ў вас — цяпер вы шчаслівая?

— Шчаслівая! Украў у жанчыны ўсе грошы ды яшчэ пытаецца, ці шчаслівая яна. Верх нахабства!

— Вы сярдуеце,— сказаў ён.— Зусім натуральна. Але на хвілінку забудзьцеся пра гэта. Місіс Раймер, калі год таму назад вы прыйшлі да мяне ў кантору, вы былі няшчасны чалавек. Ці можаце вы зараз сцвярджаць, што вы жанчына няшчасная? Калі так, дык прашу прабачыць мне. Можаце па закону прыняць супраць мяне любыя меры. Больш таго, я вярну вам назад тую тысячу фунтаў, якія вы мне авансавалі. Скажыце ж, місіс Раймер, вы ўсё яшчэ няшчасная?

Місіс Раймер моўчкі пазірала на Паркера Пайна, а калі нарэшце загаварыла, апусціла вочы:

— Не, я не няшчасная.— Ноткі здзіўлення пачуліся ў яе голасе.— Я ніколі не была такой шчаслівай з тае пары, як памёр Эбнер. Я... я хутка выйду замуж за аднаго чалавека, які тут працуе. Джо Уэлш яго імя. У наступную нядзелю ў царкве аб'явяць пра наша ўступленне ў шлюб...

— Але зараз, вядома, усё перамянілася?— спытаў містэр Пайн.

Твар місіс Раймер загарэўся.

— Што вы маеце на ўвазе? Можа, вы думаеце, што, калі б у мяне былі ўсе грошы свету, я б зрабілася лэдзі? А я не хачу быць лэдзі. Шчыра дзякую! Гэта ж бездапаможная, ні на што не здольная кучка людзей. Мы падыходзім з Джо адзін аднаму і, думаю, будзем жыць шчасліва. Што ж датычыцца вас, містэр Паркер-Махкер, дык ідзіце прэч адсюль і не лезьце ў чужыя справы.

Паркер Пайн выняў з кішэні нейкую паперку і падаў яе місіс Раймер.

— Правы паверанага,— сказаў ён.— Можа, парваць? Цяпер вы самі будзеце распараджацца сваім багаццем, як я разумею.

Дзіўны выраз з'явіўся на твары місіс Раймер. Яна адштурхнула руку з паперкай.

— Вазьміце яе назад. Я вам тут шмат чаго нагаварыла, і сёе-тое вы заслужылі. Але ўсё роўна я вам веру. Пакладзіце ў мясцовы банк на маё імя сем тысяч фунтаў — на гэтыя грошы мы купім гаспадарку. Астатнія грошы... хай яны пойдуць на бальніцы.

— Ці не хочаце вы сказаць, што ўсё ваша багацце вы перадаяце бальніцам?

— Якраз гэта я і маю на ўвазе. Джо мілы, добры чалавек, але слабы. Дай яму грошы, ён загубіць сябе. Я адвучыла яго піць і не дам яму зноў узяцца за старое. Дзякуй Богу, я ведаю, што рабіць. Не дазволю, каб паміж мною і шчасцем ляглі грошы!

— Вы незвычайная жанчына,— прамовіў містэр Пайн.— Адна з тысячы дзейнічала б так, як вы.

— Значыць, толькі ў адной з тысячы ёсць на плячах галава.

— Здымаю перад вамі капялюш,— сказаў містэр Паркер Пайн нейкім незвычайным голасам. Ён урачыста прыўзняў свой капялюш, павярнуўся і пайшоў.

— А Джо нічога не павінен пра гэта ведаць, глядзіце!— гукнула яму ўслед місіс Раймер.

Яна стаяла з вялікім блакітна-залёным качаном капусты ў руцэ, адкінуўшы назад галаву, расправіўшы плечы. Велічная постаць жанчыны-сялянкі на фоне па-вячэрняму нізкага сонца...

**Пераклад з англійскай мовы**
**С. ДОРСКАГА.**

